НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ



# СЬВІТАНАК

*Беларусь,*
*твой народ*
*дачакаецца*
*Залацістага,*
*яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

№ 3 (132), ЛЮТЫ 2012 ГОДА

**ПОГЛЯД РЭДАКТАРА**

## НАМ БЫ ТАКУЮ НІЗКУЮ ЗАРПЛАТУ!

**Кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка патрабаваў ад рэгіянальнай улады канкрэтныя планы па развіццю тэрыторый і павышэнню даходаў у бюджэт. На сустрэчы з міністрамі і кіраўнікамі рэгіёнаў 21 лютага ён адзначыў, што сярэдні заробак у 500 долараў – гэта вельмі нізкі ўзровень. Для таго каб павысіць зарплату, Лукашэнка абяцаў узмацніць ціск зверху на мясцовыя органы ўлады.**

Паводле Лукашэнкі, мясцовая вертыкаль павінна не толькі аганізаваць працу з людзьмі, але пры гэтым яшчэ і навучыцца зарабляць грошы, мабілізуючы мясцовыя рэзервы. Грошы трэба шукаць усюды, зарабляючы на ўсім, на чым толькі можна. На працягу года, максімум паўтара, улады павінны не проста выйсці на дакрызісны ў фінансавым плане ўзровень, але і пераадолець яго.

Услед за кіраўніком краіны павышэнне заробкаў да 500 долараў і болей чарговы раз абяцалі і яго падначаленыя. Так, кіраўнік нацыянальнага банка Надзея Ермакова заявіла, што сярэдняя заработная плата ў Беларусі можа дарасці да 500 даляраў. Тым часам старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Уладзімір Андрэйчанка заявіў 26 студзеня, што да канца 2012 года краіна павінна выйсці на ўзровень даходаў канца 2010 года. У сваю чаргу старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Касінец падчас сваёй паездкі ў Оршу адзначыў, што зарплата на Аршанскім ільнокамбінаце павінна раўняцца 500 доларам ЗША.

Акрамя таго, кіраўніцтва краіны абяцае больш не дапусціць інфляцыі і дэвальвацыі. Аляксандр Лукашэнка выключыў магчымасць эмісіі грашовых сродкаў у эканоміку. Грошы не ў якім выпадку друкавацца не будуць, таму што ёсць магчымасць іх зарабіць без крэдытаў. Пры гэтым кіраўнік Беларусі адзначыў, што тыя прадпрыемствы, якія сёння сядзяць на крэдытах, плацяць работнікам незаробленыя грошы. Адначасова і кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова заверыла, што ёсць падставы для выканання прагнозных паказчыкаў грашова-крэдытнай палітыкі на 2012 год.

Але наўрад ці падобныя заявы чыноўнікаў успрымаюцца сур’ёзна насельніцтвам краіны. Навучаныя горкім вопытам абвалу рубля і шалёным ростам цэн, людзі па-ранейшаму захавалі ў сабе высокія інфляцыйныя і дэвальвацыйныя чаканні. Большасць апытаных жыхароў скептычна ставяцца да гэтых абяцанняў. Паводле курсу Нацбанку, заробак памерам 500 долараў на сёння складае больш за 4 мільёны рублёў. Дзе ў нашым рэгіёне можна знайсці такую працу? Хіба што ў райвыканкаме або філіяле “Беларусбанка”, але ўсіх на работу туды не возьмуць.

Між тым, незалежныя эксперты сыходзяцца ў меркаванні, што абяцаны ўладамі заробак немэтазгодны пры сённяшняй фінансавай сітуацыі і дрэнна адаб’ецца на эканоміцы. Прадпрыемствы не пачалі працаваць больш эфектыўна – пераабсталяванне ды інавацыі застаюцца пакуль што на словах. У бюджэце ёсць запас для павышэння заробкаў, але выкарыстоўваць яго немэтазгодна: мы зноў па коле вернемся ў крызіс, але з яшчэ большымі праблемамі. Ці не рызыкуе урад чарговы раз наступіць на тыя ж самыя граблі?

Нацыянальны статыстычны камітэт абнародаваў памеры сярэдніх заробкаў беларусаў у снежні – 2 мільёны 877 тысяч рублёў (345 даляраў). У параўнаньні з лістападам заробкі павялічыліся амаль на 20%. А ў жыхароў сталіцы нагогул сярэдні заробак амаль на мільён вышэйшы, чым у сярэднім па краіне. У лютым пенсіянерам павысілі пенсіі на 24%. Да чаго прывядуць такія павышэнні?

Трэба ўлічваць, што напрыканцы году краіна атрымала неблагія грошы з Расеі – каля 4 мільярдаў долараў. Але ж іх трэба выкарыстоўваць на мадэрнізацыю, а не на праяданне. Эканамісты папярэджваюць, што пры такой фінансавай палітыцы дзяржавы сітуацыя 2011 можа паўтарыцца. У прыватнасці, кіраўнік аналітычнага цэнтру “Стратэгія” эканаміст Леанід Заіка сцвярджае, што у нас ідзе неабгрунтаванае павышэнне заработнай платы, асабліва ў доларавым эквіваленце. І гэта адбывалася ў асноўным за кошт больш таннага расейскага газу і нафты. У 2011 годзе Расея запяспечыла Беларусь вуглевадародамі, і ў нашай краіны, якая здабывае на сваёй тэрыторыі каля 1,7 млн. тон нафты, з’явілася магчымасць яе экспарту. Таму ў 2011 годзе Беларусь амаль усю сваю нафту на суму 1,29 млрд. долараў паставіла ў Германію.

Разам з тым, дзве мінулагоднія дэвальвацыі прывялі не толькі да значнага зніжэння даходаў насельніцтва, але і да узмацнення сацыяльнага расслаення ў аплаце працы. Да прыкладу, рублёвыя заробкі настаўнікаў і лекараў, па даным Белстата, выраслі за 2011 год на 40,2% і 49,8% адпаведна, у той час як у сферы фінансавай дзейнасці зарплата спецыялістаў павялічылася на 106,4%, у нафтаперапрацоўцы даходы работнікаў падняліся на 119,2%.

У выніку бедныя сталі жыць бядней, а багатыя –багацей. Пры гэты сярэдні клас стаў яшчэ больш вузкім.

З усяго выходзіць, што кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка паставіў перад мясцовымі ўладамі задачу, якую практычна немагчыма выканаць. Па-першае, за мінулы год назіралася ўцечка высокакваліфікаваных кадраў за мяжу. Па-другое, на фоне высокай зношанасці тэхналагічнага абсталявання падняць заробкі за кошт роста прадукцыйнасці працы на працягу года не атрымаецца. У рэшце рэшт без павелічэння долі прыватнага сектара не будзе неабходнага прытоку інвестыцый. Як нашы мясцовыя чыноўнікі будуць выконваць загады кіраўніка Беларусі – пакажа час.

**Аляксандр Шчамлёў.**

**ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ**

## Дзеці павінны быць абаронены

**Апошнім часам улады паведамляюць аб росце нараджальнасці. І сапраўды, станоўчыя тэндэнцыі ёсць. Аднак чаму адначасова расце і колькасць безнаглядных дзяцей пры жывых бацьках? У ходзе чарговага рэйда камісія па справах непаўналетніх высвятляла сітуацыю.**

У сувязі з моцнымі маразамі спецыялісты камісіі райвыканкама па справах непаўналетніх арганізавалі праверку бяспекі жыцця дзяцей у сем’ях. Праверка тычылася як неблаганадзейных сем’яў, так і тых, што не сталі на ўліку. На гэты раз у поле зроку трапілі мнагадзетныя, няпоўныя і іншыя сем’і. Усяго па раёну было абследавана 78 сямей.

У статус нядобранадзейных сем’яў таксама ў першую чаргу трапляюць такія, у якіх бацькі — вялікія аматары выпіць. А ёсць і такія сем’і, што на ўнутрышкольным кантролі знаходзяцца, і дзецям у якіх сацыяльна-небяспечнае становішча пагражае. Акрамя таго, п’янства бацькоў, іх амаральны воблік жыцця, дармаедства прыводзіць да насілля ў сям’і.

Работа камісіі на чале з Л. А. Грузневіч пачалася з аб’езду вёсак Мішневіцкага сельсавета. Жахнуліся прадстаўнікі рэйдавай раённай інспекцыі,наведаўшы адны сям’ю ў Сіроціне.

Дарэчы, сям’я грамадзянкі В. не стаяла на ўліку як неблаганадзейная. Перад вачамі ўдзельнікаў рэйду паўстае знаёмы, амаль аднолькавы для ўсіх нядбайных сем’яў малюнак: у доме брудна, на стале гара посуду, на незасланых ложках шэрая, амаль колеру зямлі бялізна. Гаспадыня, мнагадзетная маці, расказваючы пра жыццё, пастаянна дрыжыць. З яе слоў вынікае, што адна печка не можа абагрэць усю хату, а з дроў засталося толькі крыху дошак на распал. І не дзіва, тэмпература ў пакоях амаль як на вуліцы. Ці могуць у такіх умовах жыць дзеці? Было прынята рашэнне: забраць трохгадовага хлопчыка ў адзяленне райбальніцы.

У вёсцы Запалянка ў адной сям’і бацькі зусім сорам страцілі: нецвярозыя маці і бабуля накінуліся на камісію з лаянкай. Праўда, бацька паводзіў сябе больш адэкватна: прасіў інспектараў не забіраць малое дзіця. Аднак і ў гэтым выпадку вырашылі не пакідаць малога ў сацыяльна небяспечным становішчы. Хлопчыка часова прытулілі сваякі.

У наступных вёсках Старыновічы, Мішневічы і Жданоўка пражывалі больш дбайныя гаспадары. Дроў назапасілі, у хатах цёпла, толькі печы дзе-нідзе не зусім спраўныя – ёсць пытанні па пажарнай бяспецы.

Не было праблем з дровамі і ў грамадзянкі П. з вёскі Добрына. І хаця належнага парадку тут не ўбачылі, умовы пражывання дзяцей аказаліся больш-менш прымальныя. Да працы падключылася яшчэ адна камісія на чале са старшынёй Лаўжанскага сельсавета Святланай Кійко. Перадусім накіраваліся ў вёску Лоўжа – там пражывала адна неблаганадзейная сям’я, у якой бацькі злоўжывалі алкаголем. На гэты раз бацькоў засталі цвярозымі, аднак у доме было холадна, а дроў засталося ўсяго на тыдзень. Падчас праверкі шасці сямей ў аграгарадку Мікіціха таксама была выяўлена адна сям’я, якая засталася без дроў. Але і астатнія былі пад кантролем кіраўніцтва сельсавета, таму што самі гаспадары не праяўляюць ініцыятывы, каб своечасова паклапаціцца пра паліва на зіму. Чамусьці работнікі сельсавета павінны ім пра гэта напамінаць.

Па выніках праверкі высветлілася, што з чатырох сямей шэсць дзяцей вымушаны былі забраць у прытулак. Пры гэтым было састаўлена 11 адміністратыўных пратаколаў і вынесена 6 папярэджанняў.

Як бы там ні было, але няцяжка прадбачыць, што колькасць дзяцей у дзяржаўных прытулках узрасце, а колькасць бацькоў, якія маюць права заставаць законнымі выхавальнікамі сваіх нашчадкаў, паменшыцца.

Вядома ж, статыстыка была б зусім іншай, калі б у раёне значна прыбавілася працоўных месцаў для маладых жанчын і не раслі б так імкліва цэны на неабходныя тавары і тарыфы камунальных паслуг. Бо сацыяльная абарона дзяцей пачынаецца з узроўню жыцця бацькоў.

**Алесь Шумскі.**

**У ЦЭНТРЫ УВАГІ**

## Шумілінцы спадзяюцца на дапамогу вышэйшых інстанцый

Чарговы прыём грамадзян ладзіў старшыня Віцебскага аблсавета Аляксандр Ацясаў. Некаторыя пытанні, з якімі звярталіся да старшыні аблвыканкама, сапраўды патрабавалі дапамогі вышэйшых інстанцый, але ўсё ж большасць можна было вырашыць на месцы. А што застаецца рабіць выбаршчыкам, калі на месцах кіраўнікі не могуць прафесійна вырашыць праблему?

Адметнае тое, што дыялог пачаўся са скаргі адной пенсіянеркі. Жанчыну палохаюць высокія цэны на самае неабходнае: лекі, прадукты харчавання, камунальныя паслугі. Як пражыць на адну пенсію?

Відавочна, што апошнім часам практычна на кожным прыёме “ўсплываюць” пытанні, так ці іначай звязаныя з пагаршэннем узроўню жыцця насельніцтва. І ў гэтым выпадку ўжо не нагадаеш людзям, што падобныя пытанні адрасаваны не ў канкрэтную інстанцыю, ад якой залежыць яго вырашэнне. Але як правіла, нашы выбаршчыкі ў кожным начальніку з вобласці яшчэ прывыклі бачыць нейкага збавіцеля.

Менавіта таму Аляксандр Ацясаў у сваю чаргу вымушаны быў даваць агульныя тлумачэнні эканамічнай палітыкі дзяржавы. Ён заверыў пенсіянераў, што дзяржава не пакіне малаёмкасных без дапамогі, а калі трэба будуць дадатковыя льготы. Да прыкладу, распрацавана праграма пераходу на лічбавае тэлебачанне. А гэта азначае, што яна будзе адбывацца паэтапна, у выглядзе скідак на прыстаўкі, з дапамогай якіх можна будзе глядзець лічбавае тэлебачанне.

Аб паляпшэнні жыллёвых умоў прасіла старшыню аблсавета жанчына з Обальскага сельсавета. Маці клапоціцца за сына – інваліда дзяцінства, з якім пражывае ў хаце без зручнасцяў. Перадусім звярталася у сельвыканкам аб выдзяленні льготнага жылля, але там адмовілі. Аднак абласны дэпутат уважліва выслухаў просьбу і абяцаў узяць пытанне “на кантроль”.

Выслухаўшы скаргі жыхароў, старшыня аблсавета наведаў Слабадскую школу. У сваім выступленні перад настаўнікамі Аляксандр Ацясаў акрэсліў прыярытэты сацыяльнай палітыкі. З бюджэту вобласці – а гэта 9 трыльёнаў 400 мільярдаў рублёў 60% сродкаў будзе накіравана ў сацыяльную сферу. Праўда і тое, што заробкі настаўнікаў узраслі на 180%, але гэта пры ўсім тым, што інфляцыя ўзрасла на 200%. Хацелі як лепш, а выйшла як заўсёды.

Напрыканцы сустрэчы кіраўнік аблсавета паведаміў пра планы работы. У бліжэйшым будучым будзе прадоўжаны капітальны рамонт СШ № 1, выдзелена 700 мільёнаў рублёў на рамонт даху раённай бальніцы.

Безумоўна, наступствы эканамічнага крызісу адбіваюцца на настроі людзей. І людзі не павінны быць закладнікамі непрадуманных дзеянняў мясцовай улады. Але ці толькі ад мясцовых “вертыкальшчыкаў” залежыць у цэлым няпростая сітуацыя ў краіне?

**Алесь Шумскі.**

## “СВІТАНАК” У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

# Дапамагчы састарэлым

**Насельніцтва раёна старэе. Адпаведна павялічваецца і кантынгент работнікаў сацыяльнай службы. На сённяшні дзень 65 сацыяльных работнікаў абслугоўвае 500 пенсіянераў і непрацаздольных. Павялічылася і плата за паслугі.**

Яшчэ прыкладна дзесяць год таму не кожны жыхар раёна мог адказаць на пытанне, хто такі сацыяльны работнік. Зараз пра сацыяльную службу ведаюць не толькі састарэлыя альбо інваліды, але практычна кожны ўсе насельнікі Шумілiншчыны. За пэўны час служба сацыяльнай дапамогі на даму стала неабходнай і запатрабаванай, дала магчымасць як мага далей прадоўжыць жыццё многім састарэлым людзям у звыклых для іх хатніх умовах.

Тэрытарыяльны Цэнтр сацыяльнага абслугоўвання, які ўтвораны ў далёкім 1989 годзе, працуе пад кіраўніцтвам В. Р. Штуро. Да 2002 года паслуга была бясплатнай. Цяпер плата за паслугу для пенсіянера складае прыкладна ад 13 да 42 тысяч рублёў. Дарэчы, заработная плата сацыяльнага работніка, бадай што, адна з самых нізкіх у раёне – каля 1мільёна 600 тысяч рублёў.

Хто мае права на бясплатную дапамогу сацыяльнага работніка? Гэта інваліды 1-й і 2-й групаў без сваякоў, малазабяспечаныя (даход менш пражыткавага мінімума), пенсіянеры без сваякоў.

Валодаючы ведамі, практычным вопытам і неабходнымі душэўнымі якасцямі, сацыяльны работнік у значнай меры садзейнічае паляпшэнню ладу жыцця састарэлых людзей.

Акрамя ўсяго, старым вельмі патрэбна жывая гутарка. Як і дабрыня, разуменне, цярпенне, павага. Менавіта такімі якасцямі павінен валодаць кожны сацыяльны работнік. Увогуле, у якойсьці ступені ён павінен быць псіхолагам, умець наладзіць кантакт з людзьмі, пазбегнуць канфлікту.

Але кола іх абавязкаў выходзіць далёка за межы ўборкі ў хаце, гатавання ежы ды паходу ў краму. Не толькі справай, але і чулівым словам сацыяльныя работнікі літаральна вяртаюць да жыцця тых, хто апынуўся ў цяжкім стане, замяняючы ім падчас самых родных людзей. Жывуць старыя ў розных вёсках, шлях да якіх бывае ня блізкі. Летам сацыяльныя работнікі дабіраюцца да іх на веласіпедзе, а зімой даводзіцца ісці пешшу. На дапамогу прыходзяць сыны і дочкі. На жаль, не для ўсіх іх падапечных дзеці з'яўляюцца гэткай жа апорай. Толькі 25 зусім нямоглых старых ( 5% ад усёй колькасці падапечных) забіраюць на зіму родныя. Астатніх бяруць пад апеку прадстаўнікі тэрытарыяльнага Цэнтра. Балазе колькасць адзінокіх інвалідаў і пажылых людзей не змяншаецца.

**Алесь Прыбярэжны.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# ЦЕПЛАСЕТКІ НЕ ВЫТРЫМАЛІ НАПОР МАРАЗОЎ

**Праверкай на трываласць сталі лютаўскія маразы для энергаслужбаў і камунальнікаў. Нягледзячы на тое, што цеплаэнергетычны комплекс быў падрыхтаваны да зімы, былі дапушчаны аварыйныя сітуацыі.**

Сёлета люты апраўдвае сваю назву і зусім не ласкава ахінае зямлю траскучымі марозамі, выпрабоўвае на трываласць і гатоўнасць суб'ектаў гаспадарання да работы ў анамальных умовах надвор'я. Наколькі паспяхова з тэстам на марозаўстойлівасць спраўляецца камунальная цеплавая гаспадарка раёна?

Аналіз сітуацыі пры моцных марозах у пачатку лютага паказаў, што электрасеткі у нашым раёне працуюць няўстойліва. Былі зафіксаваны некалькі аварый с наступствамі, якія аднак былі аператыўна ліквідаваны. У небяспечнае становішча трапілі пасёлкі Обаль і Амбросавічы.

Першага лютага ў выніку спынення падачы электрарэнергіі перасталі працаваць два газавыя катлы і адзін кацёл на цвёрдым паліве ў Обалі. Дзесяць адміністрацыйных будынкаў і тысяча кватэр жылога фонда маглі застацца без цяпла. Наступствы аварыі на электрасетках былі пазбегнуты дзякуючы намаганням брыгад выратавальнікаў. У ліквідацыі аварыі былі задзейнічаны аварыйныя брыгады выратавальнікаў, спецыялісты шумілінскіх электрасетак, Обальскага керамічнага завода. Каб аднавіць работу кацельні спатрэбілася паўгадзіны. У выніку цяпло было пададзена спажыўцам.

Менш пашанцавала жыхарам аграгарадка Амбросавічы. Калі апоўначы слупок тэрмометра апусціўся ніжэй за мінус трыццаць градусаў, выйшла са строю мясцовая трансфарматарная падстанцыя. Школа, клуб і некалькі шматпавярховых дамоў засталіся без электразабеспячэння. Спынілася работа кацельні і ацяпляльных газавых катлоў, што былі ўстаноўлены ў кватэрах. Дзяжурныя шумілінскія электрыкі хіба што змаглі толькі ўстанавіць прычыну аварыі і паведаміць кіраўніцтву раённых сетак. Была вызвана на дапамогу выратавальная брыгада і спецыялісты з Віцебска. Рамонтныя работы ішлі усю ноч. Аднак некалькі гадзін хапіла, каб пацярпелі жыхары шматпавярховак, якія засталіся без цяпла. Наступствы аказаліся сур'ёзнымі: у некаторых кватэрах размарозіліся катлы і прарвала батарэі, замерзла вада ў вадаправодных трубах. Дзве сям'і, у якіх пражывалі інваліды, былі накіраваны ў бальніцу на сацыяльны ложак.

Як прызнаў начальнік раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях І. А. Крукаў, гэтыя надзвычайныя сітуацыі выявілі нескаардынаванасць асобных раённых службаў, няўменне аператыўна працаваць па ліквідацыі здарэння. Апроч гэтага, былі выяўлены факты грубага парушэння працоўнай дысцыпліны і безгаспадарчасці. На некаторых фермах няма тэлефонаў, падчас праверкі адсутнічалі вартаўнікі, ёсць факты знаходжання работнікаў кацельні ў нецвярозым стане.

Калі ўвогуле ацэньваць падрыхтоўку нашых раённых службаў да зімы, то можна ўмоўна паставіць "здавальняюча". Варта адзначыць, што глыбокая восень і першы месяц зімы радавалі шумілінцаў адносна цёплым надвор'ем. А калі надарыўся анамальны холад, дык і адразу ўскрыліся слабыя месцы. Няштатныя выпадкі адбываюцца найчасцей там, дзе зношана абсталяванне, не хапае сучаснай тэхнікі і нізкая кваліфікацыя спецыялістаў.

**Уладзімір Амбросаў.**

СПРАВЫ МІЛІЦЭЙСКІЯ

# АЦЭНКА РАБОТЫ ОРГАНАЎ ПРАВАПАРАДКУ

**Шумілінская міліцыя падводзіла вынікі аператыўна-службовай дзейнасці. Быў зроблены аналіз па розных напрамках работы і крытэрыях яе ацэнкі. Асноўны упор па-ранейшаму робіцца на прафілактыку прапарушэнняў. Аднак рост агульнай злачыннасці ў раёне павялічыўся амаль у тры разы.**

Мэта ўсёй дзейнасці міліцыі адна – каб жыццё законапаслухмяных грамадзян стала яшчэ больш бяспечным. Таму пастаяннае ўдасканаленне форм і метадаў работы вельмі важнае ў любой рабоце, а ў міліцэйскай – асабліва. Па якіх жа напрамках будзе весціся ўдасканаленне?

Першы напрамак – прафілактыка. Закон Рэспублікі Беларусь "Аб органах унутраных спраў" першым абавязкам усім органам унутраных спраў ставіць прафілактыку правапарушэнняў. Прынамсі, работа па прафілактыцы правапарушэнняў складаецца з папярэджання п'янства і алкагалізму, вышуку злачынцаў і без вестак прапаўшых грамадзян, аператыўнага рэагавання на заявы і паведамленні грамадзян.

Але факты – упартая рэч. На жаль, пакуль што не ўдалося дасягнуць зніжэння агульнай злачыннасці ў мінулым годзе. За 2011 год было здзейснена 367 злачынстваў, а ў 2010 годзе – 130. Раённы паказчык на 10 тысяч насельніцтва складае 181, 7 злачынства, пры гэтым сярэднеабласны – 132,4.

Асноўная праблема ў нашым раёне – гэта крадзяжы (82,8%). Па-ранейшаму сярод учыненых злачынстваў высокая доля крадзяжоў мабільных тэлефонаў, пакінутых грамадзянамі без нагляду ў адзенні ці сумачках, а таксама веласіпедаў. Віной усяму з'яўляецца, у першую чаргу,нядбайнсць. Як у выпадку, калі маёмасць пакідаецца без нагляду і становіцца лёгкай здабычай для зламысніка. Да прыкладу, жыхары нашага раёна маюць звычку пакідаць свае веласіпеды ў дварах, пад'ездах дамоў, каля магазінаў. За мінулы год на Шумілiншчыне скралі 39 веласіпедаў.

Другі напрамак – павышэнне раскрывальнасці злачынстваў. Яно стасуецца з такім пастулатам у юрыдычнай навуцы, як неадступнасць пакарання. Калі патэнцыйны злодзей упэўнены, што яго абавязкова знойдуць, як бы ні маскіраваўся, ён, хутчэй за ўсё ўвогуле адмовіцца ад сваіх злачынных намераў. Што тычыцца паказчыкаў раскрывальнасці, то яны значана палепшыліся. Варта адзначыць, што калі ў 2010 годзе было раскрыта 59% злачынстваў, то ў 2011 ужо 63,1%.

Нядаўна дадаўся такі паказчык – давер да органаў міліцыі з боку мясцовага насельніцтва. Грамадская думка – вось галоўны крытэрый ацэнкі работы работніка міліцыі. Паводле вынікаў анкетавання рэспандэнтаў, 28,7% грамадзян нашага раёна давяраюць міліцыі. Гэта даволі неблагі паказчык, калі параўноўваць з рэспублiканскім – у сярэднім па краіне ён складае каля 30%.

Безумоўна, аўтарытэт міліцыі павінен быць вышэйшым, таму што міліцыя павінна працаваць для насельніцтва. Людзям патрэбен ахоўнік правапарадку, які можа аператыўна выравшыць складаную сітуацыю. Любая катэгорыя грамадзян заслугоўвае павагі – нават той, хто апусціўся на самае дно, мае права на тое, каб яго ўважліва выслухалі і дапамаглі вырашыць праблему.

**С. Горкі.**

НАША СПАДЧЫНА

# ЗАХАВАЦЬ ГІСТАРЫЧНЫЯ ПОМНІКІ

**На пасяджэнні пастаяннай камісіі райсавета была ўпершыню абмеркавана праграма аб гісторыка-культурнай спадчыны Шумілiншчыны. Аднак далёка не ўсе аб'екты вядомых помнікаў архітэктуры былі занесены ў дзяржаўны рэестр.**

Пытанні па захаванню гістарычнай спадчыны раёна кожны год разглядаліся дэпутатамі райсавета. Аднак на пачатку бягучага года жыццё ўнесла свае карэктывы. Як высветлілася, многія аб'екты культурнай спадчыны Шумілiншчыны не прайшлі працэдуру дзяржаўнай рэгістрацыі. Для ўнясення выяўленых аб'ектаў культурнай спадчыны ў дзяржаўны рэестр, неабходна падаць дакументы ў Мінск. Там аб'екты разглядаюцца па сукупнасці прыкметаў гістарычнай і культурнай каштоўнасці. А затым заключэнне па наданню таму ці іншаму аб'екту статуса помніка або аб адмове ад ўключэння яго ў рэестры помнікаў будуць выдавацца на падставе дзяржаўнай гісторыка-культурнай экспертызы.

Паводле начальніка аддзела культуры А. Матвяйчука, 3 54 аб'ектаў, якія маглі ўвайсці ў рэестр, былі ўключаны ўсяго 19. Без сумневу, тут адыгравае ролю яшчэ адзін немалаважаны фактар рэгістрацыі. Немалаважная праблема – гэта праблема фінансавання праектаў, звязанных з працай помнікаў, а таксама праектаў, якія ўскосна звязаны з ахловай культурнай спадчыны. Нягледзячы на гэта, на пазачарговай сесіі будзе вынесена пытанне аб удакладненні праграмы аб гісторыка-культурай спадчыны. Дэпутатам будзе прапанавана ўключэнне ў праграму аб'ектаў, якія ў яе не ўвашлі. Чамусьці не ўключылі ў рэестр сядзібу Полцева, Пяценку, чыгучаны вакзал – помнік дзевятнаццатага стагоддзя. Работа па наданні статуса помнікам мясцовага і рэгіянальнага значэння працягваецца.

**С. Горкі.**

# АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то таксама патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Світанка» змяшчае бясплатныя абвес-ткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЕНКО НАЗВАЛ ЗАРПЛАТУ 500 ДОЛЛАРОВ НИЗКОЙ

ГЛАВА БЕЛАРУСИ ПОТРЕБОВАЛ В КРАТЧАЙШИЕ СРОКИ НЕ ПРОСТО ВЫЙТИ НА ДОКРИЗИСНЫЙ УРОВЕНЬ ДОХОДОВ, А ПРЕВЗОЙТИ ЕГО: «ЕСЛИ МЫ ПОЗИЦИОНИРУЕМ СЕБЯ, КАК СТРАНА САМОДОСТАТОЧНАЯ, КОТОРАЯ ЧЁ-ТО МОЖЕТ…»

Эта тема вновь всплыла 21 февраля во время рассмотрения Александром Лукашенко кадровых вопросов. Руководитель Беларуси говорил, как заправский оппозиционер:

– Что такое средняя зарплата в 500 долларов на человека? Это совсем низкий уровень…

Стоит отметить, что в декабре 2011 года средняя зарплата в Беларуси составила, по данным Национального статистического комитета, 2 877 658 рублей, или 344 доллара в эквиваленте, если для пересчета использовать курс Нацбанка на 1 января 2012 года. Получается, что до «низкого уровня» нам еще очень далеко.

Однако Александр Лукашенко оптимистично поставил задачу на протяжении года-полутора не просто выйти на докризисный уровень доходов, а превзойти его. «Если мы позиционируем себя, как страна самодостаточная, которая чё-то может», – добавил глава государства.

Впрочем, «Салідарнасць» припоминает, что задача превзойти 500-долларовую отметку уже ставилась. И было это четыре года назад.

29 апреля 2008 года, выступая с посланием к белорусскому народу, Александр Лукашенко обратился к тогдашнему премьер-министру Сергею Сидорскому:

– Сергей Сергеевич, надо возвращаться к требованию повышения заработной платы. Другого пути нет. На конец пятилетки нам надо заработную плату довести, боюсь говорить, до 700 долларов, никуда не денемся. 500 долларов будет мало. Надо 700 – среднюю зарплату по стране.

Глава правительства взял под козырёк. Зарплату стали наращивать, но через восемь месяцев грянула знаменитая новогодняя девальвация. С тех пор о 700 долларах никто даже не заикался.

Вторая попытка взять 500-долларовую планку закончилась еще веселее. После краткого периода благоденствия рубль в середине 2011-го обвалился со страшным треском.

И вот объявлен третий заход. Чем он закончится, вы уже знаете…

**Вадим Ливнев.**

СЛОВЫ І СПРАВЫ

# ЭКСПАРТНЫ ЦУД БЕЛАРУСІ: ЯК КРАІНА ЗАВАЯВАЛА ЕЎРАСАЮЗ

БЕЛАРУСЬ У 2011 ГОДЗЕ ДАСЯГНУЛА РЭКОРДНАГА ЗА ЎСЮ СУВЕРЭННУЮ ГІСТОРЫЮ АБ'ЁМУ ЭКСПАРТУ. ЗВЯРТАЕ НА СЯБЕ ЎВАГУ ТОЙ ФАКТ, ШТО ЭКСПАРТНЫ БУМ БЫЎ ЗАБЯСПЕЧАНЫ ШМАТ У ЧЫМ ЗА КОШТ ПАСТАВАК БЕЛАРУСКАЙ ПРАДУКЦЫІ Ў КРАІНЫ ... ЕЎРАСАЮЗА. НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СКЛАДАНЫЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ, КРАІНЫ ЕС З РАДАСЦЮ ГАНДЛЮЮЦЬ З БЕЛАРУССЮ, ЯКАЯ ЗАБЯСПЕЧВАЕ ЗАХАД НАФТАПРАДУКТАМІ І НАВАТ НАФТАЙ.

### Палітычныя сябры шкодзяць беларускаму гандлю

У 2011 годзе, паводле дадзеных афіцыйнай статыстыкі, Беларусь экспартавала тавараў на суму 40,3 млрд. даляраў і павялічыла гэты паказчык у параўнанні з 2010 годам амаль на 60%.

Дзякуючы рэзкаму росту экспарту нашай краіне ў мінулым годзе ўдалося паменшыць адмоўнае сальда гандлёвага балансу, якое, як вядома, з'яўляецца коранем шматлікіх эканамічных праблемаў Беларусі. Калі ў 2010 годзе краіна мела адмоўнае сальда ў знешнім гандлі таварамі на ўзроўні 9,6 млрд. даляраў, то ў 2011-м - 5,45 млрд. даляраў.

Праўда, як гэта ні парадаксальна, нашы палітычныя саюзнікі (Расія, Кітай, Венесуэла) толькі пагаршалі гандлёвы баланс Беларусі.

Адмоўнае сальда ў знешнім гандлі з Расеяй вырасла ў 2011-м з 8,13 млрд. да 11,24 млрд. даляраў. Імпарт тавараў з Кітая перавысіў беларускі экспарт у гэтую краіну на 1,55 млрд. даляраў (у 2010-м адмоўнае сальда складала 1,2 млрд. даляраў). Нарэшце, «мінус» у гандлі з Венесуэлай у мінулым годзе склаў 931 млн. даляраў, што больш чым на 80 млн. перавышае адмоўнае сальда за 2010 год.

Цяпер паглядзім на гандлёвыя адносіны з нашымі палітычнымі апанентамі - краінамі Захаду. Адносіны ў нас з гэтымі краінамі настолькі дрэнныя, што падставы для папрокаў ўзнікаюць ці ледзь не кожны дзень. За апошні тыдзень беларускія ўлады тройчы крытыкавалі Захад (17 лютага МЗС асудзіў рэзалюцыю Еўрапарламента, 21 лютага - польскіх парламентарыяў за «канспіратыўных» візіты », а 23 лютага ўжо Аляксандр Лукашэнка абвінаваціў Захад у спробах «гвалтоўнай змены ўлады»).

Тым не менш, складаныя палітычныя адносіны зусім не перашкаджаюць Беларусі развіваць гандаль з краінамі ЕС. Скажам больш: калі б не Еўрасаюз, ніякай станоўчай дынамікі ў знешнім гандлі Беларусі ў 2011 годзе не было б і ў памоўцы.

### Нафтавы донар Еўрасаюза

За мінулы год беларускі экспарт у краіны Еўрасаюза вырас больш чым у два разы - з 7,6 млрд. да 15,7 млрд. даляраў. У той жа час імпарт з Еўрасаюза вырас прыкладна толькі на мільярд даляраў. Станоўчае сальда ў гандлі з Еўрасаюзам склала ў 2011 годзе 7 млрд. даляраў (для даведкі: у 2010-м станоўчае сальда знаходзілася на адзнацы 50 млн. даляраў).

Адбыліся змены, зрэшты, не азначаюць, што беларуская прадукцыя ў мінулым годзе стала сверхконкурентоспособной і вельмі запатрабаванай у краінах Еўрасаюза.

Прычыны росту беларускага экспарту ў ЕС прынцыпова ў іншым. У мінулым годзе Беларусь амаль на 40% (дзякуючы ўрэгуляванні нафтавага спрэчкі з Расеяй у студзені 2011 г.) павялічыла імпарт нафты і дзякуючы гэтаму нарасціла экспарт нафтапрадуктаў у Еўрасаюз.

Так, фізічны аб'ём экспарту беларускіх нафтапрадуктаў у Нідэрланды павялічыўся з 5 млн. тон у 2010-м да 7,2 млн. тон у мінулым годзе, у Латвію - з 853 тыс. тон да 1,9 млн. тон, у Італію - са 182 тыс. да 653,6 тыс. тон. Да гэтага варта дадаць, што павелічэнню экспартнай выручкі спрыяў і той факт, што за мінулы год, па дадзеных Белстата, сярэднія цэны на нафтапрадукты выраслі на знешніх рынках на 35%.

Пералічаныя фактары дазволілі Беларусі прыкметна павялічыць вартасны аб'ём экспарту ў краіны ЕС і забяспечыць істотнае станоўчае сальда ў гандлі з Захадам.

Праўда, быў і яшчэ адзін фактар, які дазволіў нашай краіне прыкметна павялічыць пастаўкі айчыннай прадукцыі на еўрапейскі рынак.

У 2011 годзе беларускі экспарт у Германію вырас у чатыры разы. Як вы думаеце, за кошт чаго? Беларусь туды стала пастаўляць ... нафту.

У 2011 годзе Расея забяспечыла беларускія НПЗ вуглевадароднай сыравінай, і ў нашай краіны, якая здабывае на сваёй тэрыторыі каля 1,7 млн. тон нафты, з'явілася магчымасць яе экспартаваць. У 2011 годзе Беларусь амаль усю сваю нафту на суму 1,29 млрд. даляраў паставіла ў Германію.

Сумарна нафтавай экспарт Беларусі (нафта плюс нафтапрадукты) у ЕС склаў у 2011 годзе каля 10,4 млрд. даляраў. Такім чынам, атрымліваецца, што беларускі экспарт у ЕС на дзве трацінy з'яўляецца нафтавым. Вуглевадароды з'яўляюцца галоўным звяном, якое аб'ядноўвае сёння Беларусь з Еўрапейскім саюзам. Іншых шляхоў (ні эканамічных, ні палітычных) развіцця супрацоўніцтва Беларусі з ЕС сёння не праглядаецца.

**Дзмітрый Заяц.**

*Дынаміка экспарту беларускіх тавараў у 2000-2011 гг. (млн. даляраў)*



*Крыніца: Белстат*

*Уклад нафтапрадуктаў у экспарт беларускіх тавараў у ЕС*

| | *Экспорт нефтепродуктов (в млн. долларов)* | *Общий объем экспорта (в млн. долларов)* |
|---|---|---|
| Нидерланды | 5477 | 6157,9 |
| Латвия | 1640 | 3150,8 |
| Эстония | 439,6 | 578,2 |
| Великобритания | 379,8 | 406,9 |
| Италия | 375 | 553,3 |
| Польша | 283,8 | 1123,2 |
| Литва | 247,2 | 859,3 |

*Крыніца: Белстат*

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# «Хто найперш варты званьня рыцара - гэта Мікалай Статкевіч»

МІКОЛУ СТАТКЕВІЧА ЎЗНАГАРОДЗІЛІ ПРЭМІЯЙ ІМЯ ЮРЫЯ ЗАХАРАНКІ «З УЗЬНЯТЫМ ЗАБРАЛАМ» ЗА МУЖНАСЬЦЬ У АБАРОНЕ РАДЗІМЫ, ЯКУЮ ТРАДЫЦЫЙНА ЎРУЧАЮЦЬ ДА 23 ЛЮТАГА ПРАВААБАРОНЦЫ ЦЭНТРУ ПРАВАВОЙ ДАПАМОГІ НАСЕЛЬНІЦТВУ І ЦЭНТРУ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА.

Ляўрэатам прэміі імя Юрыя Захаранкі «З узьнятым забралам» за 2011 год стаў былы кандыдат на прэзыдэнта Мікалай Статкевіч. Абвяшчаючы гэтае рашэньне, кіраўніца Цэнтру правоў чалавека Раіса Міхайлоўская адзначыла мужнасьць палітыка, які не скарыўся падчас сьледзтва і ў беларускіх турмах, куды яго кінулі за палітычную барацьбу. Паводле Раісы Міхайлоўскай, камісія, якая вырашала лёс прэміі «З узьнятым забралам» за 2011 год, выбрала Міколу Статкевіча аднагалосна.

Праваабаронца Алег Воўчак адзначыў нязломнасьць і мужнасьць Статкевіча як чалавека і палітыка:

«Я ўжо 14 гадоў займаюся праваабарончай дзейнасьцю і бачу, як некаторыя палітыкі губляюцца, сыходзяць, а вось Мікалай — не, Мікалай ідзе да апошняга. Ён сапраўды ахвяруе сабой для Радзімы».

За 2010 год прэміяй «З узьнятым забралам» быў ушанаваны былы кандыдат на прэзыдэнта Уладзімер Някляеў. Ён тады сядзеў у «амэрыканцы», і дыплём за яго прымала жонка Вольга. «Сёньня я на волі і пераканаваны, што наступную прэмію ўручыць будучаму ляўрэату сам Мікалай Статкевіч», — сказаў Уладзімер Някляеў падчас уручэньня ганаровага дыплёма жонцы Статкевіча Марыне Адамовіч:

«Калі б зараз былі рыцарскія часы і мы б насілі шчыты і мячы, то з поўным правам на шчыце Міколы Статкевіча было б напісана „Рыцар бяз страху і папроку". Па сёньняшнім часе ён, можа, адзіны, хто мае поўнае права мець на сваім шчыце гэты надпіс».

Таксама Ўладзімер Някляеў зачытаў верш, які напісаў для Міколы Статкевіча Рыгор Барадулін. Уладзімер Някляеў сустракаўся з народным паэтам і прынёс на ўручэньне прэміі аркуш з радкамі Барадуліна:

**«Міколу Статкевічу**

*Мужнасьць*
*гартавалася заўсёды*
*Ў небадарным полымі*
*сьвятла.*
*Не здаюцца рыцары*
*свабоды,*
*Каб нязломнай*
*Беларусь*
*была.*

**24.02.2012,**
**Рыгор Барадулін»**

Атрымліваючы ганаровы дыплём, жонка Міколы Статкевіча Марына Адамовіч сказала, што абавязкова перадасьць яму ў Магілёўскую турму навіну пра ўшанаваньне яго ганаровай прэміяй.

«А што да добрых словаў пра майго мужа, то лепш за адміністрацыю калёніі ня скажаш, калі яны напісалі, што на шлях выпраўленьня ён ня стаў. Калі ў нашай краіне змагацца за сваю Радзіму — гэта злачынства, то хай ён будзе самым злосным злачынцам», — пажартавала жонка палітвязьня.

**Радыё Свабода.**

ПРАБЛЕМЫ ЧЭМПІЯНАТА

# ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ХАКЕІ-2014: НЕ ПЕРАНОС З БЕЛАРУСІ, ДЫК БАЙКОТ?

ЕЎРАПЕЙСКАЯ НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ ЗАКЛІКАЛА СПАРТЫЎНЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ ЕС ПЕРАНЕСЦІ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ 2014 ГОДА З БЕЛАРУСІ АЛЬБО БАЙКАТАВАЦЬ ЯГО.

У рэзалюцыі, прынятай Палітычнай асамблеяй ЕНП, гаворыцца, што рэжым Лукашэнкі пазбавіў беларусаў асноўных правоў чалавека, у краіне няма дэмакратыі і вяршэнства закону, а таксама фальсіфікуюцца вынікі выбараў.

ЕНП выступае за тое, каб на наступным з'ездзе Міжнароднай федэрацыі хакею, які адбудзецца ў траўні ў Хельсінкі, было прынятае рашэнне аб пераносе чэмпіянату свету-2014 у іншае месца да таго часу, пакуль у Беларусі не адбудзецца зменаў у бок дэмакратызацыі. У выпадку, калі такое рашэнне не будзе прынятае, Еўрапейская народная партыя заклікае ўсе федэрацыі хакею краінаў Еўрасаюза і іншых дэмакратычных дзяржаваў байкатаваць гэтыя спаборніцтвы на тэрыторыі Беларусі.

Еўрапейская народная партыя мае самую вялікую фракцыю ў Еўрапейскім парламенце. Яна аб'ядноўвае правацэнтрысцкія партыі Еўропы. Рух "За Свабоду" супрацоўнічае з ЕНП. Лідар руху Аляксандр Мілінкевіч рэгулярна бярэ ўдзел у самітах Еўрапейскай народнай партыі, на якія з'язджаюцца ў тым ліку кіраўнікі многіх краінаў, уваходзячых і не ўваходзячых у ЕС, альбо лідары апазіцый.

РОДНАЕ СЛОВА

# «БЕЛСАТ» ПАДТРЫМЛІВАЕ V АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ

ТЭЛЕКАНАЛ «БЕЛСАТ» ПАДТРЫМЛІВАЕ V АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ, ЯКАЯ ПАЧНЕЦЦА 21 ЛЮТАГА, У МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ. ЯНА ПРОЙДЗЕ ЗА ТРЫ ЭТАПЫ, НАСТУПНЫЯ ДВА ЗАПЛАНАВАНЫЯ НА 15 І 25 САКАВІКА. СЁЛЕТНЮЮ ДЫКТОЎКУ ТРАДЫЦЫЙНА АРГАНІЗОЎВАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (ТБМ).

Старшыня ТБМ Алег Трусаў кажа: «Нашая мэта – заклікаць людзей да дыктоўкі, даць ім тэксты, а далей ужо ідзе вольны валанцёрскі рух».

Дыктоўка валанцёрская, а значыць пісаць яе можна не толькі на сядзібе ТБМ, на ўроках літаратуры, слухаючы радыё або ўключыўшы «Белсат», але і зладзіўшы дыктоўку разам са сваімі блізкімі ды сябрамі.

Сёлетнюю дыктоўку арганізатары прысвяцілі юбілеям трох беларускіх літаратараў: Максіма Танка, Якуба Коласа і Янкі Купалы. Тэксты прапануюцца на выбар – гэта праграмны верш Максіма Танка і малавядомы ліст Янкі Купалы.

Зміцер Саўка, кіраўнік моўнай службы «Белсату», зазначае: «Дыктоўка – гэта арыгінальны спосаб заявіць пра ненармальнасць сітуацыі. Калі б у нас беларуская мова займала належнае месца ў штодзённасці, то, відаць, людзі б «пісалі дыктоўку» штодня. Інакш кажучы, яны запаўнялі б нейкія бланкі, яны пісалі б штосьці сваім калегам. А тут мы паказваем, што мала беларускай мовы ў штодзённасці, мала мы ёй карыстаемся. Давайце рабіць гэта часцей. І вось наўмыснасць такога, у пэўным сэнсе бессэнсоўнага дзеяння напаўняе яго не фармальным, а сімвалічным сэнсам».

Сімвалічныя выявы Максіма Танка, Якуба Коласа і Янкі Купалы будуць прысутнічаць на паперы і асадках, якія ўдзельнікі дыктоўкі атрымаюць ад «Белсату».

«Беларуская мова павінна быць у нашай штодзённасці, і дыктоўка павінна быць штодня ў кожнага чалавека, які ўмее пісаць. На жаль, гэтага няма, таму мы робім дыктоўку наўмысна», – падкрэслівае Зміцер Саўка.

Дыктоўку можна будзе напісаць і праз інтэрнэт. Відэадыктоўка, прачытаная славутаю беларускаю тэлевядоўцаю Зінаідаю Бандарэнкаю, будзе размешчаная на сайце www.belsat.eu.

## РОДНАЯ МОВА

**Максім Танк**

*З легендаў і казак былых пакаленняў,*
*З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,*
*З грымучага ззяння бурлівых крыніц,*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,*
*І з гора, і з радасці, і з усяго*
*Таго, што лягло назаўсёды ў аснову*
*Святыні народа, бяссмерця яго, –*
*Ты выткана, дзіўная родная мова.*
*Няма на зямлі таго шчасця і гора,*
*Якога б ты нам перадаць не магла.*
*Няма такіх нетраў, глыбокага мора*
*І гор, праз якія б ты не правяла*
*Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння*
*Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй*
*Над спаленай хатай, над родным загонам,*
*Над будучыняй і песняй маёй –*
*Над тым, што было і што век будзе вольным.*
*Народ пранясе цябе, родная мова,*
*Святлом незгасальным у сэрцы сваім*
*Праз цемру і годы змаганняў суровых.*
*Калі ж ападзе і развеецца дым*
*І нівы васкросшыя закаласяцца, –*
*Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,*
*Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,*
*Цымбалам дасі іх сарэбраны гром*
*І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.*
*1943*

ЕЎРАПЕЙСКІ КІРУНАК

# ПРАВЕРКА НА ЯЙЦЫ

ЗАЯВА АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ ПРА МАГЧЫМЫЯ ДЗЕЯНЬНІ АФІЦЫЙНАГА МЕНСКУ Ў АДКАЗ НА ЭЎРАПЕЙСКІЯ САНКЦЫІ – ДЭМАНСТРАЦЫЯ "НЕНАХІЛЯЛЬНАСЬЦІ", РЭАЛІЗАЦЫЯ ПРЫНЦЫПУ "ЛЕПШАЯ АБАРОНА – ГЭТА НАСТУП". АДНАК ПАКУЛЬ ДЭМАНСТРУЕЦЦА АДНО – НАМЕР, ПАГРОЗА, КІРАЎНІК БЕЛАРУСІ НЕ ПАВЕДАМІЎ, ДЗЕ ПРАЛЯГАЕ ПРЫГАДАНАЯ ІМ "ЧЫРВОНАЯ ЛІНІЯ", ПАСЬЛЯ ПЕРАХОДУ ЯКОЙ ГЭТЫЯ ПАГРОЗЫ МОГУЦЬ СПРАЎДЗІЦЦА.

Словы, што Беларусь будзе абараняцца, "нават калі мы застанёмся ў адзіноце, без Расеі, Кітаю, бязь іншых нашых сяброў", ускосна сьведчаць пра тое, што звароты Менску да Масквы і Астаны правіць салідарнасьць у гэтым пытаньні засталіся, гледзячы па ўсім, без станоўчага адказу.

Тым ня менш сёе-тое Менск сапраўды можа ў адказ зрабіць. Гэта найперш зваротныя візавыя санкцыі, што дыпляматычна карэктна, але па сутнасьці сьмешна – чыноўнікі ЭЗ ня так і рвуцца ў «сінявокую».

Больш сур'ёзная мера – дэманстратыўнае ўзмацненьне жорсткасьці рэпрэсіяў супраць апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці, каб паказаць, што эфэкт санкцый супрацьлеглы чаканаму. Нарэшце, гэта эканамічныя меры ў адказ – гэта варыянт найбольш эфэктыўны, але і найбольш небясьпечны для самога афіцыйнага Менску. Вайну нэрваў можна і прайграць, асабліва з улікам несувымернасьці эканамічных патэнцыялаў.

Аднак пагрозы могуць пэўны плён і прынесьці. Час для заявы Лукашэнка абраў невыпадкова. Нядаўні візыт у Беларусь прадстаўніка зьнешнепалітычнай службы ЭЗ Гунара Віганда, заявы, зробленыя ім у Менску, паказалі, што Эўропа знаходзіцца на пэўных ростанях – працягваць ранейшую палітыку адносна Беларусі ці карэктаваць.

Віктар Марціновіч нядаўна ў сваім блогу абураўся млявым тонам эўрапейскай дыпляматыі. Аднак гэтая млявасьць можа быць абумоўленая тым, што Беларусь насамрэч мае для Эўропы, як гэта горка ні гучыць, другараднае значэньне.

Тон размоваў, скажам, з Сырыяй ці Іранам зусім іншы. У адрозьненьне ад гэтых краін, адносіны ЭЗ зь Беларусьсю не зьвязаныя з праблемамі міжнароднай бясьпекі. На Іран ціснуць не таму, што ён парушае правы чалавека (хаця і парушае), а таму што іранская атамная бомба ёсьць пагроза рэгіянальнай і сусьветнай стратэгічнай стабільнасьці. Беларусь на гэтую стабільнасьць не замахваецца, палітыка санкцый ЭЗ адносна яе мае галоўным чынам маральную матывацыю. А з нагоды гэтай матывацыі варта прыгадаць зьедлівую рэпліку Генры Кісынджэра, сказаную ў сувязі з вайной у Косаве, але ня толькі: «Жаданьне заходніх дэмакратычных краін ісьці на рызыку ў імя абароны маральных каштоўнасьцяў вызначаецца вышынёй палёту іх бамбавікоў». Сваёй заявай Лукашэнка імкнецца павысіць рызыку палітыкі каштоўнасьцяў для Эўропы, фігуральна кажучы, «зьнізіць вышыню палёту» эўрапейскіх палітычных «бамбавікоў».

Ці дасьць гэта плён? Магчыма (і нават хутчэй за ўсё) гэтыя грозныя абяцаньні Лукашэнкі – проста блеф. Пра магчымасьць дзеяньняў афіцыйнага Менску ў адказ гаварылася ня раз, як, дарэчы, неадназразова гучалі і абяцаньні дакладна паліччыць, хто і колькі каму вінны ў адносінах Беларусі і Расеі. Але дагэтуль гэтыя пагрозы ніколі не спраўджваліся.

У міжнароднай палітыцы пагроза часам мацней за яе выкананьне. І сёньняшнія заявы Лукашэнкі заснаваныя хутчэй за ўсё на яго меркаваньні, што «ў эўрапейскіх лідэраў няма яец». Рэакцыя Эўропы будзе ў пэўнай ступені праверкай, ці мае рацыю кіраўнік Беларусі.

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

# КТО ВИДЕЛ «ЕВРОФЕСТ», ТОТ В ЦИРКЕ НЕ СМЕЕТСЯ

С ОТБОРОМ НАЦИОНАЛЬНОГО ИСПОЛНИТЕЛЯ НА "ЕВРОВИДЕНИЕ" ХОТЕЛИ ИЗОБРАЗИТЬ СКАЗКУ ПРО ЗОЛУШКУ, А ПРЕДЪЯВИЛИ ПУБЛИКЕ ПАРВЕНЮ. "ДЕВОЧКА-СИРОТА, КОТОРАЯ ВСЕГО ДОБИЛАСЬ САМА", ОКАЗАЛАСЬ КАК МИНИМУМ НЕ СИРОТИНУШКОЙ. И КАК МАКСИМУМ – ДОБИЛАСЬ СОМНИТЕЛЬНОЙ РЕПУТАЦИИ.

Алена Ланская пока пребывает в образе жертвы и отказывается общаться с журналистами. А все, кто подыгрывал этому шоу, ищут себе новое амплуа.

Организаторы фестиваля «Еврофест» – Александр и Анастасия Тихановичи, которых на совещание к Лукашенко не пригласили, – провели истеричную пресс-конференцию с заламыванием рук: «Не виноватые мы!» Министр культуры Павел Латушко прочитал пред президентом покаянную речь по бумажке. «Не причастен, не участвовал, поручений не давал, узнал на сцене, должен был, самокритично оценивалю...»

Главный спонсор, связь фамилии которого с Ланской для всех более-менее причастных давно является секретом Полишинеля, решил обидеться и соскочить. «Для всех нас очень важно, чтобы наша страна хорошо позиционировалась в Европе, чтобы мы действительно показали, что мы гордая независимая и достаточно культурная, образованная страна. И что мы можем сегодня достойно представлять нашу эстраду на европейском рынке, – произнес заученную фразу глава «Амкодора» Александр Шакутин, но далее речь пошла не так гладко. – Но, к сожалению, события, которые произошли потом, в том числе после голосования, и та грязь, которая вылилась в Интернете... Я когда прочитал... Мне, Александр Григорьевич... Позвольте я окажу финансовую помощь, но идеологически участвовать в этом мероприятии и доведении его до финала мне сложно как мужчине. Потому что я никогда в этой жизни не позволял обижать женщин».

Однако всех превзошел глава Национальной телерадиокомпании Геннадий Давыдько, который даже в этой куче навоза, вывалившейся в связи с «Еврофестом», решил поискать что-нибудь для себя полезное.

– Данная ошибка (это ошибка, я ее признаю) – невнимательность к процедуре подсчета голосов – сделала меня мудрее и опытнее как руководителя, – скромно подытожил Давыдько.

Без слов, как говорится. Потому что в итоге в этой истории нашелся Баранов на заклание (как написал Сергей Малиновский). Оказывается, это продюсер Дмитрий Викторович Баранов, правая рука Тихановичей, в отечественном шоу-бизнесе является самым влиятельным и инициативным.

**Светлана Калинкина.**

КАНФЛІКТ З ЕЎРОПАЙ

# ЭЎРАЗЬВЯЗ АДКЛІКАЕ АМБАСАДАРАЎ ЗЬ МЕНСКУ

«КРАІНЫ ЭЎРАПЕЙСКАГА ЗЬВЯЗУ НА ЗНАК САЛІДАРНАСЬЦІ АДКЛІЧУЦЬ СВАІХ АМБАСАДАРАЎ ЗЬ БЕЛАРУСІ», — ЗАЯВІЛА КІРАЎНІЦА ЭЎРАПЕЙСКАЙ ДЫПЛЯМАТЫІ КЭТРЫН ЭШТАН. УСЕ КРАІНЫ ЭЎРАЗЬВЯЗУ ТАКСАМА ВЫКЛІЧУЦЬ БЕЛАРУСКІХ АМБАСАДАРАЎ У СВАЕ МІНІСТЭРСТВЫ ЗАМЕЖНЫХ СПРАВАЎ.

Рашэньне было прынятае пасьля тэрміновай нарады, якую Кэтрын Эштан склікала ў Брусэлі пасьля зьяўленьня інфармацыі пра тое, што афіцыйны Менск запрапанаваў амбасадарам Польшчы і ЭЗ у Менску ад'ехаць у свае краіны на кансультацыі.

Пасьля нарады прэсавая сакратарка Эштан Мая Кацыянчыч заявіла:

«На знак салідарнасьці і еднасьці мы дамовіліся, што паслы краінаў Эўразьвязу ў Менску будуць усе адкліканыя для кансультацыяў у свае краіны. Усе краіны Эўразьвязу таксама выклічуць беларускіх амбасадараў у свае міністэрствы замежных справаў».

Раней міністар замежных справаў Нямеччыны Гіда Вэстэрвэле заявіў у Брусэлі, што Бэрлін адкліча свайго пасла зь Менску, бо «захады супраць ЭЗ і Польшчы — гэта таксама захады супраць Нямеччыны».

МЗС Польшчы назваў крокі Менску «непрыязнымі», а канцылярыя прэзыдэнта Браніслава Камароўскага паінфармавала, што прэзыдэнт «са шкадаваньнем успрыняў інфармацыю аб гэтым незразумелым рашэньні».

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742
**Падпісана да друку 29.02.2012 у 18.40.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.